**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 05 (826) 4 лютага 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

ІП Раманчук Д.С.; УНП 300018852
ВОКНЫ, ДЗВЕРЫ ПВХ
МТС: (029) 716-28-26
(029) 821-32-52
м-н «Крышталь», вул. Леніна, 114-а
KBE, SALAMANDER, RENAU, KNIPPING, DEXEN, WINTECH
алюмініевыя балконныя рамы
металічныя і міжпакаёвыя
высокая якасць, танныя кошты
банные дзверы, падваконнікі, адлівы, маскітныя сеткі
Замер, дастаўка – бясплатная. Растэрміноўка плацяжу

Семена
Грунты
Удобрения
магазин "Мастер"
ул. Московская, 64
тел.: 5-55-55;
магазин "Хозяин"
ул. Красноармейская, 21-А
тел.: 2-28-10.



Алеся Дубіна у ГДК на выставе-конкурсе "Беларускіх умельцаў" прадстаўляе ад УЗ Глыбоцкая ЦРБ свае творы.
*Фота Ільме Нарушэвіч.*

МОЛОДЕЧНЕНСКИЕ ОКНА ПВХ
АКЦИЯ!
100% НЕМЕЦКИЙ ПРОФИЛЬ SALAMANDER (САЛАМАНДЕР)
ВЫСОКОЕ КАЧЕСТВО. ГАРАНТИЯ.
ПРОФЕССИОНАЛЬНЫЙ МОНТАЖ.
ОТКОСЫ В ДЕНЬ МОНТАЖА.
РАССРОЧКА ДО 6 МЕСЯЦЕВ БЕЗ ПРОЦЕНТОВ И БЕЗ СПРАВОК!
НАЛИЧНЫЙ И БЕЗНАЛИЧНЫЙ РАСЧЕТ
РАБОТАЕМ БЕЗ ВЫХОДНЫХ!
ВНИМАНИЕ! ЖИТЕЛЯМ СЕЛА СКИДКИ!
ПОЛУЧИТЕ БЕСПЛАТНУЮ КОНСУЛЬТАЦИЮ ПО ТЕЛЕФОНУ:
8-029-505-33-66 МТС

Камп'ютарны сервіс Без % крэдыт
на Маскоўскай, 10, 2-гі паверх
- камп'ютары, - ноўтбукі, - камплектуючыя,
- аргтэхніка, - аксесуары,
- рамонт і абслугоўванне,
- запраўка і рамонт картрыджаў,
- фотаапараты, - тэлефоны,
- ВК тэлевізары
мтс: (033) 395-8000
vel (029) 395-8000
Мне патрэбная дапамога майстра!
ІП Катлёнак А.А.; УНП 391058112

Молодечненские ОКНА ПВХ
АЛЮМИНИЕВЫЕ РАМЫ + МЕТАЛЛИЧЕСКИЕ ДВЕРИ
НЕМЕЦКИЙ ПЛАСТИК FORIS (Германия 100%) без свинца
Профессиональный монтаж
Собственное производство
Тел.: 8 (029) 641-62-94 (velcom); 8 (029) 857-35-43 (МТС)
ООО «Рекомпласт», г. Молодечно, УНП 690450197

НОВИНКИ!!!
СООО "Арола"; УНП 391000656
Приглашаем!!!
ВСЁ для Кухни, Дома, Огорода!!!
мтс: 8 (033) 309-22-22; velcom 8 (029) 309-22-22; 8 (02156) 2-73-05
В праздники действует скидка 10% на весь ассортимент товара!
ул. Кирова, 126

## Спаборніцтвы па рыбалоўству трэба ўзгадняць! Інакш штраф – да 500 базавых!

**У лютым-сакавіку штогод арганізацыі і прадпрыемствы раёна ў сваіх калектывах арганізоўваюць спаборніцтвы па спартыўным рыбалоўстве.**

Хацелася б нагадаць кіраўнікам арганізацый і прадпрыемстваў раёна аб Правілах правядзення такіх спаборніцтваў. Паводле п. 134 Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства пры правядзенні спаборніцтваў па спартыўным рыбалоўстве абмежавання па колькасці вылаўленай рыбы не ўсталёўваюцца, калі гэта прадугледжана ўмовамі спаборніцтваў.

Пры правядзенні спаборніцтваў па спартыўным рыбалоўстве ў арандаваных рыбалоўных угоддзях ці ў рыбалоўных угоддзях фонду запасу арганізатарамі спаборніцтваў узгадняюцца з арандатарамі (карыстальнікамі) рыбалоўных угоддзяў ці з адпаведнымі мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі, а таксама з тэрытарыяльнымі органамі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

Арганізатары спаборніцтваў за 10 дзён да пачатку спаборніцтваў павінны апавясціць адпаведнае структурнае падраздзяленне Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь (міжрайінспекцыя) аб арганізацыі спаборніцтваў па спартыўным рыбалоўстве, пра час і месца іх правядзення. За парушэнне ўсталяваных правіл рыбалоўства арганізатары спаборніцтваў могуць быць прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ад 100 да 500 базавых велічынь.

Пра ўсе факты парушэння прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 2-86-70 (кругласутачна), маб.: 8972302, 8905528, 2494549, 6456678 мтс.

***Аляксей Протас,***
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі.*

УСМЕШКА
МАГАЗІН ДЗІЦЯЧАГА АДЗЕННЯ, АБУТКУ
АД 0+ - 12-13 ГАДОЎ
АКЦЫЯ! АКЦЫЯ! АКЦЫЯ!
КУПІ НА 1 МЛН РУБЛЁЎ І БОЛЬШ з 01.02 па 29.02.2016г.
І ВЫЙГРАЙ БІЛЕТЫ Ў ЦЫРК НА ТРАІХ
ПАДРАБЯЗНЕЙ ПРА АКЦЫЮ МОЖНА ДАВЕДАЦЦА:
група ў аднакласніках ok.ru/group52352610599041
вул. МАСКОЎСКАЯ, 20
тэл. 8-029-519-48-83
8-029-719-48-83
8-02156-5-44-51
ЗАКАЗ І ДАСТАЎКА НА ДОМ
ТАВАРЫ, ЦАЦКІ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ
РЭЖЫМ РАБОТЫ 9.00 – 18.00
Субота 9.00 – 17.00
Нядзеля 9.00 – 15.00
ЗАПРАШАЕМ ЗА ПАКУПКАМІ!
ІП Паўнёнак С.І., УНП 391053881

Спецодежда, обувь, СИЗ.
В Глубоком и РБ.
СПЕЦОДЕЖДА СНОСУ НЕТ
Широкий ассортимент спецодежды, различные варианты приобретения, индивидуальный подход и лучшие цены.
ОДЕЖДА И ОБУВЬ ДЛЯ САМЫХ ЗАЯДЛЫХ ОХОТНИКОВ И РЫБОЛОВОВ!!! И ПРОСТО ДЛЯ НАСТОЯЩИХ МУЖЧИН!!!
м-н г.Глубокое, ул.Красноармейская,39 возле здания "МКТ", т/ф 8 02156 2 80 93, МТС +375 29 818 19 00

Центр КОМПЬЮТЕРНОЙ ПОМОЩИ
Ремонт компьютеров, ноутбуков, мониторов
Ремонт и обслуживание принтеров, сканеров
Чистка системных блоков и ноутбуков
Установка и настройка ОС Windows
Настройка сети Интернет, WiFi
Установка антивирусного ПО
Восстановление информации
Обслуживание организаций и офисов
БЕСПЛАТНЫЙ ВЫЕЗД!!!
г. Глубокое
УНП 391534526
МТС (033) 372-37-37 Life (025) 537-71-34

Душавыя кабіны "ROMEN"
ад першага пастаўшчыка
кошт + якасць
г. Глыбокае, вул. Дзяржынскага, 29 а, магазін «Вокны Дзверы»
тэл.: 8 (02156) 2-65-66; мтс: (029) 506-50-10; vel: (044) 511-50-10
http://odstroj.doorsportal.by/
УНП 390506774

г. Глубокое, Торговый дом БЕГЕМОТ, ул. Ленина, д. 87, 1 этаж
* ОКНА, ДВЕРИ
двери входные стальные
двери межкомнатные
двери Поставского ПМЦ
окна ПВХ, рамы балконные
сетки москитные, подоконники, отливы
* тёплые откосы в день монтажа!
* жалюзи
* КУХНИ, ШКАФЫ - КУПЕ
по индивидуальным размерам
* душевые кабины Romen
* козырьки дверные односкатные и двускатные
работаем с кредитами на реконструкцию и строительство жилья
отличное качество! низкие цены!
МТС: (029) 518-62-35;

ISSN 2077-8023



Рэклама ў газеце «ВГ», тэл.: 8(029) 813-99-99

### Докшыцкі раён

# Не спыняцца на дасягнутым

■ Станіслаў Раманчук.

**У наш час могуць упэўнена сябе адчуваць на рынку толькі тыя вытворцы, якія пастаянна абнаўляюць асартымент прадукцыі і знаходзяць попыт у спажыўцоў.** Вось і ў Докшыцкім раёне завод "Ветразь" з гарпасёлка Бягомль летась патраціў звыш 3 млрд. рублёў інвестыцый, каб завяршыць мадэрнізацыю цэха па выпуску метызнай прадукцыі. За такія сродкі прадпрыемства набыло чатыры новыя станкі па выпуску самарэзаў і спецыяльную печ для іх ацынкавання. У мінулым годзе завод наведаў таксама глава вядомай фірмы з Італіі "Wega". Па дамоўленасці з італьянцамі завадчане асвоілі і пачалі выпуск спецыяльных панэляў з антывандальнымі кнопкамі для сучасных ліфтоў. Да новага года партнёры паспелі падабраць для працы падрыхтаваны персанал электрамантажнікаў, асвоіць тэхналогіі і выпусціць першыя 400 штук панэляў і дзве тысячы кнопак двух відаў.

У раёне таксама імкнецца пастаянна абнаўляць тэхналагічны працэс і мясцовы хлебазавод, філіял ААТ "Віцебскхлебпрам". Каб вытрымаць вострую канкурэнцыю ў галіне, хлебапёкі летась набылі ў Турцыі спецыяльную машыну для раскатвання цеста, а новую печ – у Расіі. Гэта абсталяванне прызначана найперш для выпечкі знакамітага каўказскага хлеба – армянскіх праснакоў «лаваш». Тэхнолагі хлебазавода спецыяльна ездзілі ў Расію да армянскіх калег, дзе наладжаны выпуск падобнай прадукцыі, і даведаліся пра ўсе сакрэты атрымання гэтага залацістага цуда. Докшыцкі лаваш па смаку мала адрозніваецца ад арыгінала дзякуючы майстэрству работніц прадпрыемства, бо частку працэсу займае ручная праца. Гэта прадукцыя добра разыходзіцца ў гарадах краіны і ў беларускай сталіцы.

### Аршанскі раён

# Трагедыя пасярод ночы

■ Кастусь Александровіч

**Кожны год зімой міліцыя заклікае ўдзельнікаў дарожнага руху праяўляць павышаную асцярожнасць падчас руху на заснежаных трасах і ў цёмны час сутак.**

Аднак не ўсе вадзіцелі кіруюцца такімі правіламі, што ў Аршанскім раёне днямі прывяло да жудаснай аварыі глыбокай ноччу на трасе М8 Віцебск-Гомель-граніца Украіны. Паблізу вёскі Грышаны 48-гадовы вадзіцель з Магілёўскай вобласці ехаў на сваім "Renault Duster", не справіўся з кіраваннем, яго машыну занесла і вынесла на сустрэчную паласу. Адбылося моцнае лабавое сутыкненне з яшчэ адной іншамаркай, якой кіраваў 57-гадовы віцяблянін. У выніку сутыкнення, на шчасце, нязначныя пашкоджанні атрымаў і трэці легкавы аўтамабіль "Nissan Primera", які рухаўся ўслед за "Opel Omeqa". Наступствы гэтага ДТЗ аказаліся страшнымі найперш для сям'і з аграгарадка Расна Дрыбінскага раёна, ехаўшай у французскай машыне. Бацька памёр адразу на месцы здарэння, праз некалькі гадзін у рэанімацыі памерла яго 18-гадовая дачка, а ўслед за ёй - і 42-гадовая жонка. Медыкам удалося выратаваць жыццё толькі трэцяга пасажыра, 16-гадовага сына, але ён застаўся сіратой. Вадзіцелю з абласнога цэнтра таксама медыкі аказалі дапамогу і адпусцілі дамоў, а трэці кіроўца не пацярпеў. Услед за гэтым у суседнім Бешанковіцкім раёне маладая вадзіцель на аўтамабілі "Iweko" пад раніцу наехаў на 62-гадовую пенсіянерку, якая пераходзіла дарогу і атрымала смяротэльную траўму. У той самы дзень толькі вечарам каля вёскі Ужляціна Шумілінскага раёна цудам застаўся жывым вадзіцель "Жыгулёў", якога занесла пад калёсы сустрэчнага МАЗа.

### Пастаўскі раён

# Каб памяталі нашчадкі

■ Чэслаў Якубовіч.

**Не ведаючы добра свайго мінулага, любая нацыя рызыкуе апынуцца ў гістарычным тупіку і не мець перспектыў у будучым.**

Вось чаму ў Пастаўскім раёне паўсюдна стараюцца актыўна займацца гэтым, вывучаць і захоўваць памяць аб мінулым краю і аб ягоных людзях ад старажытнасці і да нашых дзён. У дзень свайго прафесійнага свята – Дня выратавальніка, асабовы склад райаддзела па надзвычайных сітуацыях сабраўся сёлета не ў сваёй зале пасяджэнняў, а ў філіяле раённага краязнаўчага музея ў Палацы Тызенгаўза. Сюды запрасілі і ветэранаў пажарнікаў, бо ў новым памяшканні музея адкрылася вялікая спецыялізаваная экспазіцыя "Агняборцы Пастаўшчыны". Работа над ёй вялася крапатлівая і ўдалося за некалькі гадоў сабраць звыш ста рэдкіх дакументаў, рэчаў байцоў былой ваенізаванай пажарнай часці і мноства фотаздымкаў. Гісторыя развіцця гэтай службы ахоплівае таксама і даваенны перыяд, калі за Польшчай у павеце дзейнічалі добраахвотныя пажарныя каманды, пра што таксама сабралі ўнікальныя дакументы пра польскіх пажарных. Для наведвальнікаў будзе цікава зноў вярнуцца ў ваенны і пасляваенны час, пабачыць плацёнчую вэдамасць агняборцаў 1945 года, дакументы і асабістыя рэчы ветэранаў вайны, мясцовых пажарных, ліквідатараў наступстваў трагедыі на Чарнобыльскай АЭС. Для моладзі асаблівы інтарэс прадстаўляе выстава пажарна-тэхнічнага абсталявання мінулых эпох. Дарэчы, такі міні-музей у раёне не адзінкавы, у райцэнтры адкрыты яшчэ музей спажывецкай кааперацыі, шэраг музейных экспазіцый у школах.

# Аб самым надзёным

## БЕЛАРУСЫ СТАНОВЯЦЦА САМАЙ ТАННАЙ У ЕЎРОПЕ РАБОЧАЙ СІЛАЙ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Беларусам трэба рыхтавацца да таго, што наша краіна ўсё глыбей апускаецца ў яму эканамічнага крызіса, і перасядзець ціха гэты крызіс без моцнага зацягвання паясоў ужо не атрымаецца.**

Не паспелі мы з вамі пражыць і месяц у наступіўшым 2016 годзе, як быццам той снежны ком наляцеў на айчынную фінансавую сістэму ад папярэдніх двух моцных цыклонаў "Даніэла" і "Эма", бо паляцеў уверх тармашкамі наш беларускі рубель. Большасці суайчыннікам стала зразумела, што эканамічная сітуацыя сёлета ў Беларусі будзе і далей толькі пагаршацца. Гэта вам не жартачкі, калі курс долара пераадолеў імкліва чарговы сімвалічны рубеж 20 тысяч, а еўра наблізілася да 22 тысяч рублёў. І на гэтым фоне паўсюдна па краіне адпусцілі цэны нават на "сацыяльныя" прадукты і паслугі.

Дарэчы, яшчэ летась беларуская нацвалюта з гадавой дэвальвацыяй 56% увайшла ў чацвёрку самых слабых і няўстойлівых плацёжных адзінак у свеце. Безумоўна, на такі абвал у нас уплывае фактар імклівага падзення курсу расійскага рубля, а таксама і паводзіны беларускага насельніцтва, устрывожанага дрэнным станам спраў у краіне, бо рэзка вырас попыт на замежную валюту. Беларусы болей не давяраюць свае свабодныя сродкі банкам і не вераць, што можна нешта зарабіць, трымаючы грошы на рублёвых дэпазітах. Мы таксама становімся ледзь ці не сусветнымі рэкардсменамі пасля трох ужо дэвальвацый нацвалюты (2009, 2011 і 2014 гадоў) за апошні час.

Дасведчаныя ў эканоміцы людзі папярэджваюць, што ўжо летам курс долара можа перавысіць рубеж нават 30 тысяч пры росце эканамічных праблем. Праўда, тады мы ўжо пачнём атрымоўваць новыя грошы і, нават, манеты. Псіхалагічна нават не так страшна гучыць мець дзесяці 3 рублі з нечым за долар. Аднак у глыбінцы заробкі суайчыннікаў, відавочна, што знізяцца да 100 долараў, а ў цэлым у Беларусі яны могуць апусціцца на рубеж 200 долараў. І гэта адзін з магчымых варыянтаў развіцця сітуацыі, бо курс беларускага рубля залежыць ад мноства і не толькі ўнутраных фактараў. Пакуль невядома, ці дадуць нашай краіне замежныя крэдыты, ці будзе далей падаць Расія, ці пойдуць, нарэшце, у самой Беларусі нейкія рэформы, што будзе з інфляцыяй?

На апошняе пытанне міністр эканомікі Беларусі У. Зіноўскі "супакоіў" народ, што сёлета рост цэн у самым горшым выпадку дасягне не болей 17-18%. Нагадаем, у адышоўшым годзе інфляцыю ў нас крыху прыдушылі да 12% гадавых, хоць спачатку дапускалі нават 18%. Увогуле сёлета зімой, як і раней, прыходзяць чамусьці адны толькі сумныя навіны і заявы афіцыйных асоб. На фоне пацяплення адносін з Захадам, улады далі зразумець, што яны і далей будуць цягнуць з арганізацыяй малога прыгранічнага руху з Польшчай і Літвой, які закрануў бы з абодвух бакоў 3 млн. чалавек, а простыя беларусы ад гэтай магчымасці толькі б выйгралі.

Прэзідэнт і таксама па статусу яшчэ і Галоўнакамандуючы на штогадовай нарадзе па зацвярджэнню рашэння па ахове ў 2016 годзе дзяржаўнай граніцы адзначыў, што "народ должен понимать, что импортная шмотка – это не только большие деньги из их кармана, но и отсутствие работы у себя". З гэтым можна пагаджацца, але многія маюць іншыя меркаванні па гэтаму пытанню, а вось для сотні з нечым тысяч індывідуальных прадпрымальнікаў тая нарада стала "чорнай". Глава дзяржавы даў ім і ўсім нам зразумелы адказ, як павінны рынкі "празрачно" працаваць, паколькі для многіх гандляроў ужо закончыліся іх "медовые годы".

У бліжэйшы час у Беларусі, не выключана, што прымуць яшчэ дадатковыя меры па абмежаванню завозу спажывецкіх імпартных тавараў. Могуць улады абмежаваць для беларусаў і пакупкі ў замежных інтэрнэт-магазінах, а на самы горшы выпадак увесці, як гэта раней ужо прапаноўваў А. Лукашэнка, і выязную пошліну 100 долараў. Пакуль жа айчынны дробны бізнас чакае няпросты перыяд далейшага існавання, а для многіх з гэтай сферы і ўвогуле закрышца. Радавыя бедныя спажыўцы таксама толькі пацерпяць, бо цэны ў магазінах на тавары легпрама былі заўсёды больш высокія, чым на рынках.

У пачатку года ў нашай краіне выпадаў не толькі моцны снег, але і моцна слабела нацвалюта ўслед за расійскім рублём. Не сакрэт, што Беларусь выбрала для сябе рашэннямі нязменнага свайго кіраўніка курс да цеснай прывязкі да Расіі. Але ж там яе разумныя людзі, напрыклад глава магутнага расійскага Сбербанка Герман Грэф шчыра сказаў горкую праўду, што расіяне прайгралі зноў, на гэты раз у канкурэнтнай барацьбе ў сусветнай эканоміцы. Нашы суседзі апынуліся сярод, і гэта праўда, адстаючых краін-даўншыфтараў. Дарэчы, рускія раней яшчэ многае больш актыўна за нас рабілі, спрабавалі ўкараніць у сябе рынкавую эканоміку.

Тым часам, у сярэдзіне студзеня цана нафты ў свеце апусцілася ніжэй 29 долараў за барэль, а з Ірана, моцнага нафтавага іграка, знялі нарэшце міжнародныя санкцыі. Расійскі прэм'ер-міністр Д. Мядзведзеў не выключыў далейшага падзення цэн на нафту і паведаміў аб істотным скарачэнні расходаў дзяржбюджэту і колькасці дзяржапарату. Зразумела, што адпаведныя рашэнні і дзеянні пройдуць таксама і ў нас. Беларусам трэба рыхтавацца да таго, што наша краіна ўсё глыбей апускаецца ў яму эканамічнага крызіса, і перасядзець ціха гэты крызіс без моцнага зацягвання паясоў ужо не атрымаецца.

### Надвор'е ў Глыбокім www. rp5ru

| | Чацвер 04.02.16 | | | | Пятніца 05.02.16 | | | | Субота 06.02.16 | | | | Нядзеля 07.02.16 | | | | Пан. 08.02. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +2 | 0 | +2 | -1 | 0 | 0 | 0 | -1 | 0 | 0 | +1 | +1 | +2 | +2 | +4 | +1 | +2 | +3 | +5 |
| Ціск | 736 | 737 | 737 | 738 | 740 | 742 | 745 | 747 | 749 | 750 | 750 | 749 | 748 | 747 | 746 | 744 | 742 | 742 | 744 |
| Вецер м/сек | 6 | 4 | 5 | 4 | 3 | 5 | 5 | 4 | 3 | 3 | 6 | 5 | 6 | 7 | 8 | 7 | 7 | 6 | 7 |
| | З | З | Ю | Ю | З | З | З | З | З | Ю | Ю | Ю | Ю | Ю | Ю | Ю | Ю | Ю-З | Ю |
| Вільготнасць | 83 | 86 | 79 | 93 | 90 | 90 | 85 | 87 | 85 | 93 | 89 | 94 | 94 | 93 | 81 | 84 | 87 | 94 | 93 |

## Дзень за днём

**Колькасць стратных айчынных прадпрыемстваў летась вырасла ў 1,5 разы, іх у Беларусі стала ўжо 1587. Усяго за паўмесяца беларускі рубль рухнуў яшчэ на 16,1%, на гістарычным дне апынуўся і рускі рубель. Гандляроў на рынках стала меней, на тавары з сертыфікатамі цэны ўзраслі. Урад Беларусі выключыў з забруджанай Чарнобыльскай зоны 203 населеныя пункты, людзі страцілі ільготы. У больш паловы працуючых беларусаў заробкі сталі менш сярэдніх па краіне. Падаражэў праезд і на міжнародных цягніках. За год прыбавілася на 7600 чалавек працуючых пенсіянераў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Іран.** Адразу пасля зняцця санкцый з краіны цана нафты маркі Brent упала ніжэй 27 долараў за барэль, адчувальна таксама абрушыліся індэксы саудаўскай біржы.

**Венесуэла.** На грані імпічмента апынуўся вадзіцель-прэзідэнт М. Мадура, ратуючы краіну ад эканамічнага краху, голаду і калапса ён вымушаны быў падняць цэны на бензін.

**Гвінея.** Урад абʼявіў краіну апошнім рэгіёнам Заходняй Афрыкі, свабодным ад перадачы небяспечных вірусаў ліхаманкі Эбола, дзе ёй перахварэлі і выжылі 10 тыс. чалавек.

**Бразілія.** Урад краіны забіў трывогу з-за пашырэння эпідэміі невылечнага віруса Зіка, які разносяць камары, і нараджаюцца, паміраюць вельмі аслабленыя дзеці з малымі галовамі.

**Кітай.** Другая па велічыні пасля ЗША эканоміка свету паказала летась рэкордна нізкі рост за апошнія 25 гадоў, скараціліся на 512,6 млрд. USD яе валютныя рэзервы.

**Швейцарыя.** На форуме ў Давосе эксперты МВФ знізілі рост сусветнай эканомікі сёлета да 3,4%, вельмі складаны перыяд чакае Расію і іншыя слабыя звенні сусветных рынкаў.

**ЗША.** Кандыдат у прэзідэнты Х. Клінтан параўнала Пуціна з хуліганам, які будзе браць датуль, пакуль яго не спыняць сілай, адносіны паміж краінамі застаюцца жорсткімі.

**Украіна.** Эканамічны крызіс, вайна ў Сірыі і скудныя рэсурсы, як заявіў палітолаг Б. Ярабік, усё болей прымушаюць Крэмль шукаць кампраміс з Кіевам і "аддаць" Данбас.

**Сірыя.** Ісламісты-баевікі пацвердзілі гібель пасля ўдару амерыканскай авіяцыі свайго галоўнага 27-гадовага ката М. Эмвэдзі, які "праславіўся" адразаннямі галоў "няверным".

**Расія.** З пачатку года з-за рэзкага падзення нафтавых цэн 13 самых багатых алігархаў РФ страцілі больш 11 млрд. $ сваіх актываў, большасць з іх выводзяць свае багацці з краіны.

**Пакістан.** У выніку нападзення раніцай баевікоў-талібаў на ўніверсітэт горада Чарсадда загінула да 15 чалавек, яшчэ 50 студэнтаў і выкладчыкаў былі паранены.

**Францыя.** Адмова ўдзельнічаць у зімовай сесіі ПАСЕ скончылася для Расіі пазбаўленнем права ўдзельнічаць яе дэлегацыі ў працы асамблеі да канца 2016 года.

**ЗША.** Выбары 2018 года, як заявіў прафесар У. Пастухоў, стануць для Расіі сурʼёзным выпрабаваннем і нават патрасеннем з-за эканамічнага ўпадку, людзі моцна збяднеюць.

**Украіна.** Кампанія "Нафтагаз Украіны" адмовілася плаціць "Газпраму" 2,5 млрд. USD за газ, які яна не набывала летась у 3-м квартале, павялічыла на 50% тарыф за транзіт.

**Англія.** Тэлерадыёкарпарацыя BBC заявіла аб удзеле 16 сусветна вядомых тэністаў у арганізацыі дагаворных матчаў на турнірах "Вялікага шлему", уключаючы "Уімблдон".

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Міністр эканомікі У. Зіноўскі пацвердзіў, што прыйдзецца адмовіцца ад падтрымкі неэфектыўных прадпрыемстваў і пераглядзець праграму развіцця Беларусі да 2020 года.

**Бабруйск.** Расійскі ваенны эксперт П. Фельгенгауэр папярэдзіў, што акрамя размяшчэння авіябазы ў Беларусі Расія паспрабуе паралельна размясціць ядзерную зброю ў Крыме.

**Гомель.** За год ААТ "Гомсельмаш" выпусціў толькі 146 камбайнаў, каб выратаваць завод-гігант ад гібелі дзяржава патраціла 428 мільёнаў долараў праз выпуск валютных аблігацый.

**Ялізава.** Эканамічны суд выявіў у мясцовага беларуска-аўстрыйскага шклозавода 598 мільярдаў даўгоў пасля 2-х гадоў працы са стратамі і пачаў працэдуру прызнання банкрутам.

**Мінск.** Імгненнага збяднення краіны, як папярэдзіў эксперт В. Іасуб, сёлета не будзе, але прадоўжыцца рэцэсія эканомікі, марудная зніжэнне зарплат і падзенне ўзроўню жыцця.

**Крычаў.** У шэрагу аварыйных пакояў райбальніцы, пасля абследвання спецыялістамі, столь умацавалі драўлянымі падпоркамі, летам 2014г. тут абрушыліся 2 паверхі гімназіі.

**Мінск.** І для самой улады, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, скончыліся мядовыя гады папулізма за кошт шчодрых расійскіх субсідый, мядовыя гады скончыліся для ўсіх нас.

**Гродна.** Многіх гродзенцаў засмуціла, што Польская чыгунка канчаткова адмовілася сёлета ад аднаўлення памежнага руху паяздоў у напрамку Гродна з Беластока.

**Гомель.** Галоўны санітарны ўрач вобласці А. Тарасенка пацвердзіў, што выпадкаў заражэння свіным грыпам H1N1 не было, але на граніцы з Украінай узмоцнены кантроль.

**Шклоў.** Аршанскі суд пакараў 23-гадовую жыхарку раёна 5 гадамі абмежавання волі без накіравання на "хімію" за ДТЗ з машынай картэжу прэзідэнцкага суправаджэння.

**Мазыр.** У адной з палат траўматалагічнага аддзялення гарбальніцы наведвальнік днём напаў з нажом і забіў даўжніка, 32-гадовага пацыента, злачынцу затрымалі пазней.

**Пружаны.** Следчыя РАУС затрымалі ў Мінску 35-гадовага непрацуючага жыхара раёна за не ўплату аліментаў, ён у ліку 58 беларусаў ваяваў у Данбасе на баку баевікоў "ДНР".

**Гомель.** Калі цыклон "Даніэла" горад не закрануў, то новы цыклон "Эма" заваліў яго снегам, з-за дрэннага надворʼя адмянілі і свята з нагоды Сусветнага дня снега.

**Мінск.** Трое невядомых у масках вечарам за гадзіну да закрыцця ўварваліся і абрабавалі ювелірны салон "Жэнев", забралі з разбітых 6 вітрын каштоўнасцяў на 20 тысяч долараў.

**Бяроза.** У аднаго з самых багатых людзей краіны Ю. Чыжа фінансавыя праблемы, і ён спыніў фінансаванне ФК "Бяроза-2010", клуб пакінулі ігракі, трэнеры, персанал клуба.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Безнаяўныя субсідыі для аплаты ЖКП з'явяцца ў Беларусі з 1 мая



■ Кар. БЕЛТА

**Безнаяўныя жыллёвыя субсідыі для частковай кампенсацыі платы за жыллёва-камунальныя паслугі і платы за карыстанне жылымі памяшканнямі ўводзяцца ў Беларусі. Адпаведнае распараджэнне №29р ад 26 студзеня 2016 года падпісаў прэм'ер-міністр Беларусі Андрэй Кабякоў, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе беларускага ўрада.**

Распараджэннем вызначаны тэрміны ўкаранення новай сістэмы. У прыватнасці, Гродзенскаму і Магілёўскаму аблвыканкамам ва ўзаемадзеянні з Нацбанкам даручана ўкараніць у арганізацыях, якія займаюцца ўлікам, разлікам і налічэннем платы за ЖКП і платы за карыстанне жылымі памяшканнямі, аўтаматызаванай інфармацыйнай сістэмы разлікаў за спажытыя насельніцтвам жыллёва-камунальныя і іншыя паслугі (АІС «Разлік -ЖКУ») да 1 сакавіка, Брэсцкаму і Мінскаму аблвыканкамам, а таксама Мінскаму гарвыканкаму - да 1 красавіка, Віцебскай і Гомельскай аблвыканкамам - да 1 мая 2016 года. Паводле распараджэння створана міжведамасная рабочая група для выпрацоўкі прапаноў па налічэнні грамадзянам з 1 мая 2016 года безнаяўных жыллёвых субсідый для частковай кампенсацыі платы за жыллёва-камунальныя паслугі і платы за карыстанне жылымі памяшканнямі на базе АІС «Разлік-ЖКП». Кіраўніком групы прызначаны намеснік прэм'ер-міністра Анатоль Калінін. У яе склад таксама ўвайшлі прадстаўнікі Мінжылкамгаса, Дзяржкаммаёмасці, Мінпрацы і сацабароны, Нацбанка, Мінфіна, Мінэнерга, МПЗ, аблвыканкамаў і Мінгарвыканкама. Міжведамаснай працоўнай групе даручана да 2 лютага 2016 зацвердзіць план мерапрыемстваў па арганізацыі налічэння безнаяўных жыллёвых субсідый на базе АІС «Разлік-ЖКП» і да 1 мая 2016 года забяспечыць яго рэалізацыю. Пры неабходнасці да дадзенай працы будуць прыцягваць кіраўнікоў і спецыялістаў рэспубліканскіх органаў дзяржкіравання. Мінжылкамгасу сумесна з Мінпрацы і сацабароны, Мінэнерга, Мінэканомікі, Мінфінам, аблвыканкамамі і Мінгарвыканкамам неабходна падрыхтаваць і да 15 лютага 2016 г. унесці ў Саўмін праект указа «Аб прадастаўленні безнаяўных жыллёвых субсідый і ўнясенні дапаўненняў і змяненняў у некаторыя ўказы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь», прадугледзеўшы ў ім парадак узаемадзеяння дзяржорганаў і арганізацый.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Мазолава.** На базе сельгасфіліяла "Віцебскаблгаза" прэм'ер-міністр Беларусі А. Кабякоў правёў нараду з актывам вобласці, як жыць і развівацца паўночнаму рэгіёну далей.

**Віцебск.** Кіраваць сферай АПК вобласці ў перыяд яго крызісу стаў былы дырэктар буйнога аграхолдынгу з Барысаўскага раёна 55-гадовы Віктар Аскерка.

**Орша.** Другі этап мадэрнізацыі льнокамбіната пачаўся з фабрыкі №2, дзе знос абсталявання і станкоў 85-100%, амаль палову з новых 343 адзінак тэхнікі будзе з Кітая.

**Полацк.** Супрацоўнікі міліцыі затрымалі двух жыхароў Пастаў, якія везлі на аўтамашыне Chrysler з Расіі 26,3 грамы наркотыкаў амфетаміна, атруту яны планавалі збываць.

**Лепель.** На мясцовым рынку спынілі працу больш 80% прадпрымальнікаў, якія прадавалі адзенне і абутак, гандаль таварамі з сертыфікатамі ідзе вяла, вельмі малы выбар, цэны ўзраслі.

**Віцебск.** Большасць прадпрымальнікаў, якія гандлявалі на сямі рэчавых рынках горада, сышлі адтуль, практычна закрыўся ГЦ "Эвіком", апусцелі Полацкі, Смаленскі рынкі.

**Паставы.** На пачатак вясны перанеслі здачу участка ЛЭП, узводзімай Беларускай АЭС працягласцю 90 км "Смаргонь – Паставы", яна ўзводзіцца сумесна з фірмай з Кітая.

**Наваполацк.** Следчы камітэт пачаў праверку па факту гібелі падчас родаў хлопчыка ў мясцовым радзільным доме, маці якога сама медык і раджала ўжо ў трэці раз.

**Глыбокае.** Вучні раёна зноў лепш за ўсіх выступілі на абласным этапе рэспубліканскай алімпіяды па школьных прадметах і прывезлі 20 дыпломаў пераможцаў I-III ступені.

**Урбаны.** На мясцовым пункце мытнага афармлення ў нішы кабіны фуры, якой кіраваў грамадзянін Літвы, знайшлі і затрымалі незадэклараваную валюту, амаль 30 тысяч еўра.

**Віцебск.** Нягледзячы на асуджэнне мітрапаліта Паўла, у кіёску Свята-Успенскага сабора і мясцовых цэрквах прадавалі святую ваду па 10-20 тысяч рублёў за пластыкавую бутэльку.

**Шуміліна.** Мясцовая ПМК-70 за тры з паловай месяцы ўзвяла новы ўтульны будынак для лясніцтва, раней справілі наваселлі і калектывы Каз'янскага і Мікалаеўскага лясніцтваў.

**Докшыцы.** Жыхароў аграгарадка Пруднікі парадавала, што будаўнікі прыступілі да ўзвядзення ўжо даху новай капліцы ў гонар Маці Божай, святыню неўзабаве пабудуюць.

**Браслаў.** У райцэнтры прайшоў II дзіцячы агляд-конкурс "Да сонца-2016" з удзелам вучняў Неўенскіх школ мастацтваў Латвіі, Гран-пры прысудзілі К. Кісялёўска (Латвія).

**Віцебск.** Да свайго 90-годдзя калектыў драмтэатра імя Я. Коласа вырашыў паставіць спектакль па творах У. Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім" з удзелам усёй трупы.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па матэрыялах інфармагенцтв і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Заступніца з Ларэта



■ Франц Хоміч,
краязнаўца,
м. Дунілавічы

**Яшчэ ў сярэдзіне 19 стагоддзя ў мястэчку Дунілавічы можна было сустрэць постаці людзей у чорных мантыях з чорнымі капюшонамі. Гэта былі манахі-дамініканцы, кляштар якіх дзейнічаў у мястэчку з 1683 па 1850 год. Прызначэннем іх было несці ў народ веру ў Госпада, а таксама адукацыю і культуру.**

**Напэўна, дамініканцы планавалі затрымацца ў Дунілавічах надоўга, але, як кажуць людзі,чалавек плануе на Зямлі, а вырашае Бог на Небе.**

У 1793 годзе наша мясцовасць адыходзіць да Расійскай імперыі, пачынаецца шэраг паўстанняў за незалежнасць. Адно з іх,1830-1831года, падтрымалі каталіцкія ордэны, сярод іх і дамініканцы.Паўстанне было задушана, пачалася ліквідацыя кляштараў. У 1850 годзе быў скасаваны і кляштар у Дунілавічах.

**Пры заснаванні кляштара, фундатаркай, Альжбетай Белазор, яму быў падараваны цудадзейны абраз Маці Божай Ларэтанскай. У свой час, заснавальніца кляштара атрымала яго ад віленскага біскупа Мікалая Паца.**

Ордэн Дамініканаў будаваў свае храмы толькі ў буйных гарадах, а Дунілавічы былі ўсяго мястэчкам. Выключэннем з правіла было ўзвядзенне храма для захоўвання святыні, рэліквіі. Мяркуецца, што гэта і стала прычынай узвядзення касцёла Найсвяцейшай Тройцы.Тут знаходзіцца ўнікальны двух'ярусны ("ларэтанскі") алтар, які сімвалізуе хаціну Дзевы Марыі.

Згодна з легендай, анёлы перанеслі дом Марыі з Палесціны ў Італію ў горад Ларэта, выратаваўшы ад разарэння ворагам. Алтар складаецца з двух частак, пярэдняй для вернікаў і дома – алтара (ззаду).

Паломнікі просяць у Багародзіцы дапамогі ў вырашэнні сваіх праблем. Марыя Ларэтанская лічыцца заступніцай пілотаў і тых, хто падарожнічае ў паветры, да яе звяртаюцца лётчыкі ўсяго свету.



Пасля закрыцця касцёла абраз захоўваўся ў мясцовых жыхароў сп. Ліпскіх, а пасля іх ад'езду ў Польшчу, у касцёле г.Глыбокае. З аднаўленнем мясцовага касцёла быў вернуты на ранейшае месца, у 1997 і 2015 гадах ён быў рэстаўраваны.

Пад абразом захоўваюцца воты (ахвяраванні), звычайна гэта рэчы з каштоўных металаў. Пасля закрыцця касцёла ўладамі, складзеныя воты зніклі, але зараз інтэнсіўна папаўняюцца. Ідзе аднаўленне культу абраза Маці Божай Ларэтанскай, усё больш людзей даведваецца пра цудадзейны абраз і наведвае касцёл Святой Тройцы у Дунілавічах. Вернікі просяць заступніцтва Маці Божай Ларэтанскай пры вырашэнні розных складаных жыццёвых сітуацый.

Існуе шмат прыкладаў дзейснасці такога заступніцтва.



**Унікальны двух'ярусны ("ларэтанскі") алтар у дунілавіцкім касцёле.** *Фота С.Гайко.*

■ Уладзімір Скрабатун

Гартаючы стары фотаальбом

# Прыезд імператара

*100 гадоў таму...*



**Сустрэча Мікалая II на станцыі Сяславіна (цяпер – Крулеўшчына)**, 7.02.1916 г (21.02.1916 па новаму стылю). *Аўтар фота К.Е.фон Ган и К⁰. На дальнім фоне – стары вакзал у Крулеўшчыне, які быў знішчаны ў часе Другой сусветнай вайны.*



**Мікалай II (справа) на прыступках палаца графа Тышкевіча ў Дунілавічах**, 7.02.1916 г (21.02.1916 па новаму стылю). *Аўтар фота К.Е.фон Ган и К⁰.*

Роўна 100 гадоў таму апошні імператар Расейскай імперыі Мікалай II здзейсніў свой візіт у наш край, які ў часе Першай сусветнай вайны, знаходзіўся ў тыле рускай арміі[1].

Цягнік імператара прыбыў на станцыю Сяславіна (Назоў станцыі ў 1914-1919 гг, потым – Крулеўшчына) а 10-й гадзіне. Тут Мікалая II сустрэлі галоўнакамандуючы арміямі Заходняга фронту генерал ад інфантэрыі А.Е.Эверт, генерал ад кавалерыі А.І.Літвінаў, ганаровы караул ад 7-га Сібірскага казацкага палка. Мясцовыя жыхары паднеслі хлеб-соль.



**Дарога з Сяславіна да Дунілавічаў была цяжкай – разбітай і занесенай снегам. "Матор" неймаверна кідала...**

Далей шлях імператара, імаверна, ляжаў праз Глыбокае, дзе яго ўрачыста сустрэлі глыбачане. Фотаграфічных і пісьмовых доказаў таму – у аўтара няма. Аднак, такія звесткі яму паведаміла адна глыбачанка – настаўніца-пенсіянерка – дзед якой, паводле сямейнага падання, знаходзіўся ў складзе глыбоцкай грамадскасці, якая тут сустракала імператара.

Праўдападобна, імператар у Глыбокім затрымаўся не надоўга, бо ў гэты ж дзень – 7 лютага (21.02.1916 года – па новаму стылю) – яго ўжо сустракалі ў Дунілавічах.

Пасля ліквідацыі Свянцянскага прарыву немцаў бакі перайшлі да пазіцыйнай вайны, лінія фронту праходзіла ў ваколіцах Пастаў. Дунілавічы сталі прыфрантавой зонай, да лініі фронту кіламетраў 30.У раён мястэчка адводзіліся войскі для перафармавання і адпачынку, тут размяшчаліся штабы асобных фармаванняў рускай арміі.

У тамтэйшым палацы графа Юзафа Тышкевіча размяшчаўся штаб 1-й Сібірскай стралковай дывізіі.

Перад імператарам, які стаяў на прыступках палаца, адбылося праходжанне войск цырыманіяльным маршам падраздзяленняў 1-й Сібірскай стралковай дывізіі. Сярод прысутных: галоўнакамандуючы арміямі Заходняга фронту генерал ад інфантэрыі А.Е.Эверт, камандуючы 1-й арміяй генерал ад кавалерыі А.І.Літвінаў і іншыя.

Гасудар дзякаваў войскам за ўздзел у трох войнах – Кітайскай, Японскай і сучаснай і прасіў дапамагчы яму – *"окончательно победить и одолеть нашего упорного и коварного врага"*.

Пасля агляду камандаванне корпуса ў Дунілавіцкім маёнтку графа Юзафа Тышкевіча дало сняданак Гасудару. Вядома нават меню – *"щи, каша, рубленые котлеты, мороженое и кофе"*.

Пасля абмеркавання службовых спраў з камандаваннем, дзесьці а 16-й, царскія аўтамабілі адбылі на станцыю Сяславіна. Адкуль, праз Полацк, імператар накіраваўся ў Дзвінск (Даўгаўпілс).

1. У «ВГ», №46 за 2008 г., быў змешчаны падрабязны матэрыял Франца Хоміча на тэму візіта Мікалая II ў м. Дунілавічы.

# Шчасце! У чым яго сутнасць?

*Жыць сярод людзей і для людзей – гэта азначае бачыць сябе вачамі грамадства. Развітое грамадзянскае сумленне – гэта плоць і кроў калектывізму. Яно зацвярджаецца, калі чалавек з малых гадоў, фарміруючыся ва ўмовах калектыўнай дзейнасці, творчасці аддае ўсё лепшае, што ў ім ёсць, іншым людзям, быццам творыць сябе ў другім чалавеку, імкнучыся паўтарыць толькі лепшае.*
У.Сухамлінскі

*Шчасце – гэта здаровы дух у здаровым целе.*
Эпікур



**Фадзей Шымуковіч,**
*педагог,*
*г. Дзісна*

Звялікім задавальненнем прачытаў у “Міёрскіх навінах” за 15.09.2015г. артыкул “На пасадзе кіраўніка – з пазіцыі чалавека” выказванне старшыні Міёрскага райсавета Марыі Мікалаеўны Баніфатавай, якая бачыць у чым жа адчуваюць сваё “шчасце” многія грамадзяне нашага раёна, а менавіта, што ў “грамадстве правалюе прыгожае жыццё ў раскошы, актыўна прапагандуюцца забавы. У пагоні за матэрыяльнымі дабротамі людзі пачалі пераходзіць межы дазволенага. У такім асяродку прыстасаванцы, прагнымі да матэрыяльных каштоўнасцяў, выхоўваюцца дзеці. Што ў гэтым многія бачаць сваё шчасце.” Абнадзейвае тая акалічнасць, што ў рэшты рэшт нашы кіраўнікі ўбачылі пагрозу для грамадства ў тым, што маральны ўзровень многіх нашых грамадзян тоіць у сабе пагрозу дэградацыі нашай цывілізацыі.

Вось учора атрымаў часопіс “Однако, жизнь” №20\2015, на трэцяй старонцы якога артыкул доктара філалагічных навук, прафесара Тацццяны Міронавай “Галоўная прычына вымірання нашага народа – маральны крызіс”. Але гэта ўжо іншая тэма дзеля больш падрабязнага аналізу.

У наш час часта ў бытавых абставінах ад многіх асоб можна пачуць нараканне на тое, што чалавека пакінула шчасце. Так і хочацца “няшчасліўцу” задаць некалькі пытанняў: ці не хворыя Вы? Ці можа галодныя? Ці няма дзе жыць? І г.д. Аказваецца, усё быццам ёсць, хоць не ў той колькасці і той якасці, як бы яму хацелася. У многіх асабістыя аўтамабілі, пры тым, прэстыжныя іншамаркі, прадметы бытавой выгоды. Але чалавек усім гэтым незадаволены, лічыць, што яго абышла ўдача. А вось у іншых зусім падругому, усяго ў дастатковай колькасці, хоць не заўсёды здабыты гэтыя матэрыяльныя каштоўнасці на законнай аснове.

І калі заходзіць размова аб тым, што ўсе матэрыяльныя і культурныя даброты спачатку неабходна стварыць, а створанае зарабіць, адразу звяртаемся да “закона”, быццам па якому нам усё гэта належыць. У ход ідзе невядома кім абвешчаная ідэя “узбагачайся і весяліся”, якая, на жаль, настойліва рэкамендуецца ўсімі СМІ, асабліва электроннымі. Вось тут Марыя Мікалаеўна і расставіла ўсе кропкі над “і”, сказаўшы: “Не трэба забывацца, што дзяржава абавязана забяспечыць мінімум, сацыяльны пакет, усё астатняе дасягаецца пры непасрэдным удзеле саміх грамадзян”.

А можа грамадзяне пазбаўлены свабоды дзеянняў? Пытанне вельмі складанае. Але што мы павінны разумець пад свабодай? Яшчэ ў другой палове XIX стагоддзя знайшліся прыхільнікі, якія прапагандавалі жыць не так, як патрабуе грамадства, а як душа-душанька пажадае. Адзін з прыхільнікаў такой “свабоды” вядомы рэжысёр Судзержыцкі быў раскрытыкаваны Львом Талстым.



Леў Мікалаевіч у сваім пісьме задаў яму пытанне: “У чым сэнс слова “свабода”? Што ты, як папугай, усё паўтараеш адно слова – свабода, свабода, а дзе, у чым яго сэнс? Калі ты даб’ешся свабоды ў тваім разуменні, як ты яе ўяўляеш, – што будзе? У філасофскім сэнсе – бяздонная пустыня, а ў жыцці, у практыцы – станеш ты гультаём, пабірONцам. Што цябе, свабоднага ў тваім сэнсе, звязвае з жыццём, з людзьмі? Вось птушкі свабодныя, а гнёзды ўюць. Ты нават гнязда віць не будзеш, задавальняючы палавое пачуццё тваё дзе папала, як кабель. Падумай сур’ёзна і ўбачыш-адчуеш, што ў канчатковым сэнсе свабода – пустата бязмежжа... Мы ўсе шукаем свабоду ад абавязкаў да бліжняга, тады як пачуццё гэтых абавязкаў да бліжняга зрабіла нас людзьмі, і калі б не было гэтых пачуццяў – жылі б як звяры.”

Я не выпадкова прывёў выказванні Льва Мікалаевіча цалкам і падкрэсліў асноўную іх ідэю, бо ў нас час такіх прыхільнікаў такой “свабоды” пруд прудзі, а ідэі Льва Мікалаевіча не менш, а нават больш актуальныя і сёння. А пачуццё абавязку да бліжняга адно з састаўных частак сутнасці чалавечага шчасця.

Калі мы разбегліся па “нацыянальных кватэрах”, г.зн., з распадам СССР, мы вызваліліся не толькі ад таталітарнага рэжыму, на жаль, мы вызваліліся ад сораму, сумлення, жадання працаваць і многіх іншых маральных прынцыпаў, выпрацаваных чалавецтвам на працягу многіх стагоддзяў. Такія паняцці, як “сорам”, як і многія другія з гэтай катэгорыі, сталі амаль зняважлівымі. Мы хочам бачыць шчасце ў імкненні да свабоды, усёдазволу. Мы абвясцілі лозунг “Узбагачайся і весяліся”. На першы погляд у ім нічога амаральнага няма. Таму што ўся чалавечая дзейнасць накіравана на стварэнне матэрыяльных і маральных, культурных даброт. Але пытанне ў іншым, якім шляхам, якімі сродкамі ўсё гэта ствараецца, а галоўнае, як яно размяркоўваецца сярод членаў нашага грамадства? Як усё гэта багацце садзейнічае развіццю і станаўленню маралі кожнага чалавека і грамадства ў цэлым? Ці не рухаемся мы да адзічання грамадства?

Згодна “Словаря русского языка” С.І.Ожагава, шчасце – гэта пачуццё і стан поўнага вышэйшага задавальнення. Значыць, сутнасць шчасця для мяне залежыць ад таго, наколькі я задаволены метадам размеркавання ўсіх каштоўнасцяў. Але ж я яшчэ і грамадзянін Рэспублікі Беларусь, законы якой павінны абараняць маю чалавечую годнасць. А як тут ідуць справы? Ці рухаемся мы да высокага цывілізаванага грамадства?

Пісьменнік Ф.Іскандэр усё гэта адлюстраваў у сваім вершы:

*“Куды ні сунься – усюды хам,*
*Што застаецца рабіць нам?*
*Як хамскую ўмерыць прыць?*
*Пастарайся перахаміць!”*

А можа мы ў многіх выпадках і ўздзейнічаем вось такім чынам? На хамства адказваем хамствам і задаволены сабой, забываючыся аб тым, што здымаючы са свайго сумлення путы маралі, здзяйсняем самае страшнае зло – разбураем тую гармонію ўзаемаадносін паміж людзьмі, без якой не можа быць шчасця ні асобнага чалавека, ні грамадства ў цэлым. Мы абавязаны памятаць, што свабода, якая ахоўвае інтарэсы не толькі мае, але любога другога чалавека ў межах, якія ўстаноўлены маральнымі нормамі, ёсць тое дабро, якое прыносіць чалавеку шчасце.

Сумленне перашкаджае чалавеку жыць так, як ён гэтага хоча. Ён павінен стрымлівацца і аглядацца на іншых, аўтаматычна помніць, што ёсць грамадская думка, якая дае адзнаку яго паводзінам. А такія “тармазы” мала каго задавальняюць, асабліва, калі чалавек пры пасадзе. Ці мала мы ў жыцці сваім сустракалі такіх унтараў Прышыбеевых у штанах, і, нават, у спадніцах. Вось і выходзіць, замест волі – гуляй поле, замест гармоніі ў адносінах да людзей – безупынныя стрэсы.

На жаль, у жыцці мы сустракаем больш біды, чым радасці. Сапраўднае шчасце можам мы адчуваць і адчуць хутчэй пры спакойным, чым узбуджаным стане душы. Звычайна мы ў такія хвіліны адчуваем духоўнае прасвятленне. Для нас вельмі цяжка бывае прыпыніцца на гэтай залатой сярэдзіне, і мы часта або да яе не даходзім, або наадварот, пераходзім яе лішнім хваляваннем, але тым не менш, патрэбна імкнуцца да яе не забываючыся, што сам Творца стварыў нас для таго, каб мы знаходзіліся ў стане вечнага захаплення, а наадварот, уклаў у нас жаданне дзейнасці, без якой мы не можам быць шчаслівымі. Але пры гэтым патрэбна помніць, што Творцу патрэбна толькі тая наша дзейнасць, якая на дабро чалавецтва.

Даць універсальны адказ на пытанне, а што такое шчасце – немагчыма, бо кожны чалавек па рознаму разумее сваё шчасце. Паспрабую перафразіраваць Ожагава, але не змяняючы сутнасці яго сцвярджэння, што шчасце – гэта вышэйшы духоўны наш стан задавальнення. Тады шчасце можна разглядаць, як блажэнства нашай душы. Але ці заўжды мы адчуваем блажэнства душы? Наркаман, алкаголік і іншыя з гэтай кагорты за шчасце лічаць блажэнства цела: прыняў дозу, атрымаў кайф для цела і большага шчасця для яго не існуе. Іншы ж чалавек блажэнства атрымлівае ад добрай музыкі, песні, кнігі, кіно, ад зносін з роднымі і блізкімі – гэта блажэнства душы. Трэція лічаць для сябе шчаслівымі тыя моманты, калі ў суседа няшчасце, здохла карова, згарэла хата. Гэта блажэнства ад сатаны. У кінакарціне “Дажывём да панядзелка” на пытанне, што такое шчасце, вучань напісаў: “Шчасце – гэта калі цябе разумеюць”.

Думаю, што для чалавека няма большага шчасця, калі ты разумееш, што твая праца, тваё жыццё патрэбны членам тваёй сям’і, блізкім, суседзям, людзям наогул, дзяржаве. Шаноўны чытач! Давайце ўсе мы пастараемся зразумець адзін аднаго, зразумець сябе самога, чаго я хачу. А гэта і ёсць залог нашага агульнага шчасця, гэта і ёсць яго сутнасць!

# СКМ “Нагляд” – адзін з метадаў прафілактыкі злачыннасці

**Па выніках 2015 года на тэрыторыі Віцебскай вобласці павялічылася колькасць цяжкіх і асабліва цяжкіх рэцыдыўных злачынстваў, пры гэтым адзначаецца рост рэцыдыўных забойстваў, цяжкіх цялесных пашкоджанняў і разбояў.**

**■ С. Ешчанка,**
*начальнік крымінальна-выканаўчай міліцыі Глыбоцкага РАУС*

У мэтах папярэджання цяжкіх і асабліва цяжкіх рэцыдыўных злачынстваў, а таксама ў адпаведнасці з планам асноўных арганізацыйных мерапрыемстваў Упраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама на першае паўгоддзе 2016 года, у мэтах аздараўлення аператыўнай абстаноўкі, звязанай з правядзеннем правапарушэнняў асобамі, якія маюць судзімасць, з 11 па 19 студзеня 2016 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна, з удзелам усіх службаў Глыбоцкага РАУС і з прыцягненнем супрацоўнікаў Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь, было праведзена спецыяльнае комплекснае мерапрыемства (СКМ) «Нагляд».

Падчас правядзення дадзенага мерапрыемства былі падвергнуты праверцы ў вячэрні і начны час сутак па месцы жыхарства ўсе асобы, якія стаяць на ўліку ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС, такія як асуджаныя да адбывання пакаранняў па прысудах судоў, не звязаных з пазбаўленнем волі, і якія маюць не знятую і непагашаную судзімасць пасля адбыцця пакарання і вяртання з месцаў пазбаўлення волі, якія стаяць на прафілактычным уліку.

Праведзенае СКМ «Нагляд» паказала, што не ўсе раней судзімыя асобы хочуць уставаць на шлях выпраўлення і весці законапаслухмяны лад жыцця.

Так, у дачыненні да дзвюх асоб, за неаднаразовыя парушэнні адміністрацыйнага заканадаўства, судом Глыбоцкага раёна быў усталяваны прэвентыўны нагляд на тэрмін 6 месяцаў з пэўнымі забаронамі і абмежаваннямі, такімі як знаходжанне па месцы жыхарства ў вячэрні і начны час і строгай яўцы на рэгістрацыю ў Глыбоцкі раённы аддзел унутраных спраў.

Не ўсе асуджаныя ўсведамляюць неабходнасць добрасумленна адбываць прызначанае прысудам суда пакаранне. Так, у дачыненні да асуджанага да абмежавання волі без накіравання ў папраўчыя ўстановы адкрытага тыпу, за неаднаразовыя парушэнні парадку і ўмоў адбывання пакарання 15 студзеня гэтага года была ўзбуджаная крымінальная справа па арт.415 Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь, санкцыя гэтага артыкула прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да 3 гадоў.

Падчас СКС было праведзена пашыранае пасяджэнне назіральнай камісіі пры Глыбоцкім райвыканкаме, дзе было разгледжана 8 асоб, якія стаяць на ўліку ў інспекцыі. Пракурорам раёна названым асобам былі вынесены афіцыйныя папярэджанні, а таксама была прапанаваная дапамога ў працаўладкаванні тым, хто мае ў гэтым патрэбу.

За час правядзення дадзеных мерапрыемстваў, злачынстваў на тэрыторыі Глыбоцкага раёна, асобамі, якія стаяць на ўліку ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі, дапушчана не было.

У мэтах далейшай працы па падтрыманні правапарадку на тэрыторыі Глыбоцкага раёна, неабходна ўсім грамадзянам не заставацца ў баку і пра вядомых ім фактах парушэнняў грамадскага парадку, асобамі, якія маюць судзімасць, звяртацца ў Глыбоцкі РАУС па тэлефонах: 102, 2-27-02, 2-17 -60.

